● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● кошт 3000 рублёў

11 жніўня 1998 г. аўторак, № 156 (23507)

# ЗВЯЗДА



## КАМПЕТЭНТНЫЯ ОРГАНЫ РАССАКРЭЦІЛІ «КЛАНДАЙК» ПАДПАЛКОЎНІКА МІЛІЦЫІ

Як «Звязда» ўжо паведамляла, супрацоўнікамі КДБ і пракуратуры рэспублікі затрыманы адзін з адказных работнікаў аднаго са сталічных райаддзелаў унутраных спраў. Калі меркаваць па некатора́й інфармацыі, гэты арышт «пагражае» стаць адным з самых гучных за апошні час. Нам стала вядома, што падпалкоўнік міліцыі зараз утрымліваецца ў ізалятары КДБ.

У прэс-цэнтры Савета бяспекі карэспандэнту газеты паведамілі некаторыя падрабязнасці гэтай справы. У прыватнасці, аказалася, што пры вобыску падпалкоўніка ў яго рабочым кабінеце і дома было знойдзена звыш ста тысяч долараў ЗША. Акрамя ўнушальнай сумы ў замежнай валюце канфіскавана таксама каля 100 ювелірных вырабаў з золата. Трапіла ў рукі кампетэнтных органаў акрамя ўласнага табельнага пісталета падпалкоўніка і іншая зброя. Як патлумачылі нам у праваахоўных органах, на даным этапе расследавання ўся іншая інфармацыя трымаецца «пад замком». Але ўжо ў бліжэйшых нумарах газеты, ёсць надзея, з'явіцца больш падрабязная інфармацыя.

**Ігар ГРЫШЫН.**

## ПРЭЗІДЭНТ АЦАНІЎ ХОД ЖНІВА НА МІНШЧЫНЕ НЕ ТОЛЬКІ З ВЫШЫНІ ПТУШЫНАГА ПАЛЁТУ

У першай палавіне дня 7 жніўня верталёт прэзідэнта краіны праляцеў над сямю раёнамі Мінскай вобласці. З вышыні птушынага палёту адкрываецца найбольш ясная карціна ходу уборачнай кампаніі ў Валожынскім, Слуцкім, Мінскім, Нясвіжскім, Стаўбцоўскім, Капыльскім і Уздзенскім раёнах.

Першую пасадку Аляксандр Лукашэнка зрабіў на тэрыторыі аграбудаўнічай фірмы ПМК-74-«Налібокі». На жаль, у гэты дзень умовы надвор'я не далі магчымасці мясцовым камбайнерам працягваць жніво. Але кіраўнік дзяржавы цікавіўся не толькі сезоннымі палявымі работамі. «Налібокі» — адна з першых гаспадарак, дзе прынята на ўзбраенне новая форма рэфармавання калектыўных гаспадарак. Фактычна праблемы «ляжачага» калгаса ўзяла на сябе будаўнічая кампанія ПМК-74, якая дабілася вялікіх поспехаў. Адбылося гэта ўсяго толькі 7 месяцаў таму, аднак вынікі ўжо ёсць. Паводле слоў дырэктара новага прадпрыемства Мечыслава Сахара, штогадовыя надоі ад адной каровы павялічыліся з 1900 кілаграмаў да 3600. Зямля, дзе, на думку раённых спецыялістаў, можна было атрымліваць з гектара не больш як 28 цэнтнераў збожжа, дае ў паўтара-два разы больш.

Азнаёміўшыся з работай фірмы, Аляксандр Лукашэнка заявіў, што вопыт работы «Налібокаў» трэба ўжо не асвойваць, а ўкараняць ва ўсёй рэспубліцы.

Аляксандр Лукашэнка пабываў таксама ў калектыўным дольным прадпрыемстве «Беларусь» Нясвіжскага раёна. Ён азнаёміўся з ходам уборачнай у гэтай гаспадарцы.

Кіраўнік дзяржавы, адказваючы на пытанні журналістаў, адзначыў, што выдзялення крэдытаў на куплю тэхнікі ў гэтым годзе не чакаецца. Беларускі рубель неабходна ўтрымаць, не дапусціць некантралюемага росту інфляцыі. Тым не менш, падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка, дзяржава не адмовіцца ад аказання дапамогі жыхарам тых сельскіх рэгіёнаў, якія пацярпелі ад стыхійных бедстваў у гэтым годзе.

**БЕЛТА.**



## «У АФРЫЦЫ Я МАРЫЎ, ШТО КАЛІ ВЯРНУСЯ І ПРЫЕДУ ДАМОЎ, Я ПАЦАЛУЮ СВАЮ ЗЯМЛЮ...»

***...Пятніца, 7 жніўня. Сталічны чыгуначны вакзал, 20 гадзін вечара. Да прыбыцця маскоўскага цягніка — 12 хвілін. Звычайная мітусня побач: некага праважаюць, хтосьці сустракае. Людзі занятыя сваімі клопатамі, ім няма справы да таго, што адбываецца за два крокі ад іх, бо асабістыя праблемы — самыя важныя ў жыцці. Руціна будняў зацягвае... Таропка зацягваючыся ўжо каторай па ліку цыгарэтай, я дарэмна спрабую хаця б на нейкі час «выключыцца» са звыклага рытму жыцця і ўявіць, што можа ўсё гэта, будзённае для нас, азначаць для чалавека, які яшчэ пазаўчора раніцай быў у афрыканскай турме. 12 хвілін... Рэчаіснасць не хоча адпускаць, бо для свядомасці гэта непасільная задача: уявіць тое, чаго не перажыў... «Цягнік «Масква—Мінск» прыбывае на шосты пуць. Час прыбыцця... Нумары вагонаў пачынаюцца...» Металічны цягучы голас з дынамікаў і таропкі перадапошні перастук колаў зліваюцца ў адну працяглую ноту, якая раптоўна змаўкае, стаўшы апошняй кропкай у драме, што напісала жыццё для гэтых людзей... Беларускія верталётчыкі нарэшце дома.***

З фотакарэспандэнтам мы кідаемся да трынаццатага вагона, углядаемся ў твары людзей, што выходзяць на перон. Няма... Побач так жа ўважліва-нервова разглядаюць пасажыраў цягніка некалькі чалавек. «Прабачце, вы не верталётчыкаў сустракаеце?» «А, што? Верталётчыкаў?!. Да, канешне, верталётчыкаў... Сустракаем...» І раптам: «Васіль! Жывы!» Невысокі мужчына з барадой — Васіль Кулькоў — ледзь ступіўшы з лесвіцы, аказваецца ў адбымках сваякоў, колішніх саслужыўцаў. «Мы з Васілём некалі разам служылі», — узбуджана гаворыць адзін з сустракаючых. «Раніцай пачулі агляд «Звязды», купілі газету, і вось — сустракаем», — рэагуе на мяне жанчына і тут жа забывае. «Васіль!» Слёзы, абдымкі... Следам за Кульковым выходзіць Іван Мартыновіч. Таксама барада, загар... Усё на нейкі час патанае ў радасным гвалце, поціскі рук, крыкі...

Віншуем абодвух з вяртаннем, перадаём ім усё, што наказалі іх жонкі, ад сябе ўручаем на памяць нумары газеты, дзе мы пісалі аб іх, і наш «звяздоўскі» сюрпрыз — майкі з фірменнай сімволікай (Іван Мартыновіч даваў у ёй інтэрв'ю ГРТ, калі хто глядзеў навіны ў нядзелю вечарам — **С. Р.**). Верталётчыкі дзякуюць і... Васіля Кулькова тут жа адцягваюць некуды ўбок сустракаючыя. Іван Мартыновіч аказваецца ў нашым «палоне».

**— Іван Міхайлавіч, а дзе ваш трэці таварыш — Уладзімір Чэпель?**

— Чэпель паехаў на поўнач Беларусі. У яго становішча горшае, чым у нас — ён скасаваў шлюб. У яго ўвогуле ўсё было горш. Калі нас проста скралі і звезлі ў Нігерыю, дык ён з самага пачатку трапіў у турму, дзе мы потым знаходзіліся...

***(Заканчэнне на 3-й стар.)***



## НА ПАЦЯРПЕЎШЫХ АД СТЫХІІ ПАЛЯХ БРЭСТЧЫНЫ ЗБОЖЖАВЫЯ ЎБІРАЮЦЦА ЎРУЧНУЮ

**Каля 800 чалавек штодзённа выходзяць з косамі на затопленыя палі Століншчыны, каб дапамагчы гаспадаркам убраць ураджай збожжавых.**

Рака Гарынь, што разлілася, а таксама дажджы затапілі ў гаспадарках раёна каля 5 тысяч гектараў збожжавых і зернебабовых — пятую частку плошчы. Многія калгасы і саўгасы вымушаны звярнуцца да дзедаўскага метаду ўборкі. Штодзённа ў кожнай гаспадарцы 30—40 чалавек выходзяць у палі з косамі.

**Ірына МАКАВЕЦКАЯ, БелаПАН.**





Прыватны «извоз».

Фота Максіма МАЛІНОЎСКАГА.

***УСМІХНЕМСЯ!***





Малюнак Аркадзя САЛТЫКОВА.

*Сын пытаецца ў бацькі:*

*— Тата, кажуць, што жаніцьба — як латарэя. Няўжо гэта праўда?*

*— Не, сынок. У латарэі ёсць хоць нейкі шанц...*

❑

*—А мне сёння вырвалі зуб...*

*—Баліць?*

*—Не ведаю, ён застаўся ў стаматолага.*

## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 10 ЖНІЎНЯ 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | Тэлефон для даведак |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (0-17) | | | | | | | |
| Белпрамбудбанк | 58000 | 58700 | 32000 | 32970 | 9000 | 9300 | 233-2110 |
| Мінсккомплексбанк | 58000 | 59000 | 32750 | 33300 | 9200 | 9350 | 228-2047 |
| Пріорбанк | 57500 | 59000 | 32500 | 33300 | 9000 | 9300 | 245-5721 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 43300.00 | | 24308.08 | | 6880.00 | | Курс на 11.08.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 6.262 | | 3.517 | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваюцца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Рынкавы намінальны курс (міжбанкаўскі рынак) | 86001 | 87000 | 48253 | 48827 | 13668 | 13831 | |
| Рэальна абгрунтаваны намінальны курс (прыблізна) | 68000 | 68500 | 38200 | 38700 | 10500 | 11000 | |

# ПАДРУЧНІКІ Ў ШКОЛЫ ТРАПЯЦЬ. АЛЕ КАЛІ?

Усяго на сённяшні дзень у вучэбным працэсе ў беларускіх школах выкарыстоўваецца да 1200 найменняў падручнікаў, якія з-за недахопу фінансавых сродкаў падзяляюцца на вучэбную літаратуру першага, другога і трэцяга прыярытэтнага напрамкаў. Аб гэтым на прэс-канферэнцыі, прысвечанай пытанню выканання дзяржзаказу-98 па выданню школьных падручнікаў, паведаміла журналістам дырэктар Навукова-метадычнага цэнтра вучэбнай кнігі і сродкаў навучання Міністэрства адукацыі РБ Галіна Зносенка.

Кальсьці існавалі канкрэтныя тэрміны выканання дзяржзаказу — падручнікі да новага навучальнага года павінны былі быць выдадзены да 1 ліпеня адпаведнага года. Але вось ужо некалькі год падручнікі працягваюць друкавацца і пасля таго, як дзеці садзяцца за школьныя парты. Так, здаецца, будзе і сёлета. Ва ўсялякім разе, у першым паўгоддзі было выканана толькі 70 працэнтаў запланаваных да 1 верасня заказаў.

Па словах дырэктара Мінскай фабрыкі каляровага друку Аляксандра Аксёненкі, па прычыне таго, што гэта адзінае ў рэспубліцы прадпрыемства, здольнае друкаваць ілюстраваную літаратуру, на ім зараз сабраўся аб'ём работ, які ў 1,5 раза перавышае магутнасці гэтага прадпрыемства. Таму паліграфістам сёння прыходзіцца працаваць у тры змены, у тым ліку і ў выхадныя дні. Прадукцыя ж з прадпрыемства накіроўваецца ў першую чаргу на «перыферыю», а вось Мінск і Мінскі раён будуць забяспечвацца падручнікамі ў апошні момант. Акрамя таго цэлы шэраг падручнікаў, вострай патрэбы ў якіх у першай чвэрці няма, будуць працягваць друкавацца яшчэ і восенню.

70 працэнтаў выканання ўсяго дзяржзаказу прыходзіцца ў апошнія гады на выдавецтва «Народная асвета», на якім ляжыць задача стварэння нацыянальных падручнікаў для беларускай школы. Да апошніх яго дасягненняў, безумоўна, можна аднесці стварэнне свайго падручніка па фізіцы для 7 класаў на рускай і беларускай мовах, падручнікаў для паглыбленага вывучэння алгебры і геаметрыі, падручнікаў для трох мадэляў пачатковай адукацыі і іншых. Акрамя таго «Народная асвета» ўжо закрыла патрэбу ў нацыянальных падручніках па геаграфіі і гісторыі з 6-га па 11-ы класы.

12 найменняў падручнікаў падрыхтавала сёлета да друку і выдавецтва «Вышэйшая школа», якое займаецца стварэннем падручнікаў па іншаземных мовах. Працягнула свой паспяховы мінулагодні эксперымент і выдавецтва «Полымя», распрацаваўшы для спецшкол 7 найменняў падручнікаў для сляпых дзяцей, выкананых шрыфтам Брайля.

І яшчэ адзін момант, на які звярнулі ўвагу ўсе ўдзельнікі прэс-канферэнцыі: згодна з пастановай Савета Міністраў, 10 працэнтаў ад агульнага тыражу падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў павінны трапляць у свабодны гандаль. Але пакуль механізм іх продажу не адпрацаваны, больш таго не высветлена мэтазгоднасць продажу ўсіх выдаваемых вучэбных кніг, асабліва тых, кошт за якія «зашкальвае» за 300 тысяч і па кішэні вельмі нямногім з бацькоў, таму на сённяшні дзень гэтае пытанне застаецца адкрытым і бацькам не варта спяшацца за пакупкай у кніжныя крамы.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

*ЖЫЛЛЁ*

## КВАТЭРУ ПАБУДУЕМ САМІ

**На пачатак жніўня ўдзельнікі дзяржаўнай праграмы жыллёвага будаўніцтва «Рацыянальны дом» інвесціравалі ў эканоміку краіны 100 мільярдаў рублёў. Менавіта такую вялікую колькасць сродкаў накапілі грамадзяне краіны на сваіх асабістых траставых рахунках у ААБ «Беларусбанк» па праграме «Рацыянальнага дома».**

Усяго з пачатку рэалізацыі дзяржаўнай праграмы жыллёвага будаўніцтва «Рацыянальны дом» (крыху больш года), яе ўдзельнікамі сталі каля 1300 грамадзян, у тым ліку 776 з іх стаяць на ўліку на паляпшэнне жыллёвых умоў.

На думку экспертаў Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва краіны грашовыя сродкі грамадзян, якія ўкладваюцца ў праграму жыллёвага будаўніцтва «Рацыянальны дом», можна смела лічыць унутранымі інвестыцыямі ў эканоміку краіны. Грошы, якія ўкладваюцца ў сферу будаўніцтва жылля, садзейнічаюць загрузцы прадпрыемстваў, росту бюджэтных паступленняў, стварэнню новых працоўных месцаў не толькі ў будаўніцтве, але і ў шэрагу іншых галін эканомікі.

Акрамя таго, ужо сёння кіраўніцтва інвестыцыйна-будаўнічай асацыяцыі «Рацыянальны дом» вырашыла пачаць будаўніцтва ў Мінску яшчэ аднаго, чацвёртага па ліку жылога шматпавярховага дома. Зараз асацыяцыя вядзе будаўніцтва трох шматкватэрных дамоў новага пакалення з агульнай жылой плошчай больш як 10 тысяч квадратных метраў. Завяршыць іх будаўніцтва плануецца ў другім—трэцім квартале 1999 года. Будаваць новы дом было вырашана па вуліцы Варанянскага ў мікрараёне Чкалаўскі. Сёння вядзецца праектаванне яшчэ пяці шматпавярховых дамоў.

**Сяргей КУРКАЧ.**

## НЕБЯСПЕЧНАЯ «НЕВЫТВОРЧАЯ» СФЕРА

Паводле аператыўных даных Дзяржаўнай інспекцыі працы, са студзеня па ліпень гэтага года пры выкананні службовых абавязкаў у краіне загінулі 148 чалавек або на 26 менш, чым за такі ж перыяд летась.

Найбольш значнае зніжэнне траўматызму са смяротным зыходам адзначана сёлета ў аграпрамысловым комплексе, жыллёва-камунальнай і лясной гаспадарках. Затое, як гэта ні сумна, у адрозненне ад папярэдняга года з'явіліся ахвяры ў некаторых галінах так званай «невытворчай» сферы. У прыватнасці, былі зарэгістраваны два смяротныя выпадкі ў сістэме міністэрстваў адукацыі і культуры, а таксама адзін у сістэме МУС.

**Сяргей ГРЫБ.**

*НАВІНА Ў НУМАР*

## У ДОБРУШЫ РАБАЎНІК УЗЯЎ КАСУ. З ДАПАМОГАЙ ВЫБУХОВАГА ПРЫСТАСАВАННЯ

Не зусім звычайнае абрабаванне адбылося ў Добрушы: злачынца аб'ектам нападу выбраў касу аўтобуснага вакзала. Прычым дзейнічаў невядомы як заўзяты тэрарыст. Напалоханая жанчына-касір нават не пікнула, пачуўшы з вуснаў мужчыны пагрозлівыя словы, і аддала выручку.

Здарэнне адбылося прыблізна каля адзінаццаці гадзін раніцы. Невядомы ўварваўся ў памяшканне праз службовы ўваход. Хутка наблізіўшыся да касы, мужчына патрос поліэтыленавым мяшком і заявіў, што там знаходзіцца выбуховае прыстасаванне. Потым папярэдзіў, што калі яму будзе аказана супраціўленне, ён будзе вымушаны ўзарваць змесціва пакета. Зразумела, нервы ў жанчыны не вытрымалі: яна аддала рабаўніку 199 тысяч рублёў, якія знаходзіліся ў касе. Пасля чаго незнаёмец з «кушам» выбег з памяшкання і сеў у праязджаючы «Форд». У Добрушы была праведзена аперацыя і хутка аўтамабіль затрымалі на праспекце Луначарскага. Аказалася, што рабаўнік — жыхар Тынды, што ў Амурскай вобласці. Гастралёр змешчаны за краты. Дарэчы, у поліэтыленавым пакеце знаходзілася адзенне.

**Ігар ГРЫШЫН.**

## НАЧНЫЯ АЎТОБУСЫ І ТРАМВАІ — КАНКУРЭНТЫ ТАКСІ

У беларускай сталіцы яшчэ адным манапалістам стала менш. Пачынаючы з 10 жніўня канкурэнтамі таксі па перавозцы пасажыраў у начны час сутак будуць аўтобусы і нават трамваі.

Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА ў вытворчым упраўленні транспарту і сувязі Мінскага гарвыканкама, на першым этапе арганізуюцца пяць аўтобусных і два трамвайныя камерцыйныя маршруты. Штодзень з 1.00 ночы да 5.30 раніцы яны будуць звязваць цэнтр Мінска і некаторыя яго «спальныя» раёны. Кошт праезду на наземных відах камунальнага транспарту — 20 тысяч рублёў за адну паездку ў трамваі і 30 тысяч — за білет у аўтобусе.

**Аксана АСПІШЧАВА, БЕЛТА.**

## ВІКТАР ЛУКАШЭНКА ПОЙДЗЕ СЛУЖЫЦЬ У АРМІЮ

У час наведвання Нясвіжскага раёна прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка абвергнуў чуткі аб назначэнні яго сына паслом Беларусі ў Швейцарыі. Кіраўнік дзяржавы заявіў, што Віктар Лукашэнка праз тры месяцы пойдзе служыць у армію. Ён закончыў вышэйшую навучальную ўстанову і мае воінскае званне лейтэнанта. Магчыма, Лукашэнка-малодшы будзе служыць у пагранічных войсках. А пакуль, да пачатку ваеннай службы, Віктар будзе працаваць у Міністэрстве замежных спраў.

**Ігар ХОМІЧ, БЕЛТА.**

## ГРОШЫ ЗАСТАЛІСЯ Ў СЕЙФЕ

Ледзь не паўтарылася злачынства паўтарагадовай даўнасці ў Гродне, калі з філіяла «Пріорбанка» бандыты выкралі звыш мільярда рублёў. На гэты раз аб'ектам нападу, учыненага позна вечарам у мінулую нядзелю, стаў філіял «Беларусбанка», размешчаны па вуліцы Каліноўскага. Двое невядомых у масках схаваліся пад лесвічным маршам і напалі на супрацоўніка міліцыі з аддзела аховы, які вяртаўся на свой пост пасля таго, як праводзіў да выхаду касіраў. Збіўшы міліцыянера драўлянай дубінкай, зламыснікі змаглі адкрыць сейф. Якраз у гэты час да пад'езда на аўтамашыне прыбылі іншыя супрацоўнікі аддзела аховы разам з прадстаўніком ювелірнай майстэрні, што знаходзіцца па суседству з філіялам банка і мае з ім агульны ўваход. Пачуўшы шум, злачынцы выскачылі з акна другога паверха і зніклі, не крануўшы грошы ў сейфе. Як стала вядома БЕЛТА з кампетэнтных крыніц, там было 2,5 мільярда рублёў, 4 тысячы амерыканскіх долараў, а таксама іншая валюта і матэрыяльныя каштоўнасці.

Па гэтаму факту заведзена крымінальная справа, пачалося расследаванне. Стан міліцыянера, якому злачынцы нанеслі чэрапна-мазгавую траўму, апасенняў не выклікае.

**Канстанцін БАЛАТЭВІЧ, БЕЛТА.**

## БУДЗЕМ З МАНДАРЫНАМІ І ВІНОМ

Брэсцкую вобласць наведала дэлегацыя з Грузіі. Гасцей, найперш, зацікавіла свабодная эканамічная зона.

Як сказаў прадстаўнік гандлёва-прамысловай палаты Д. Хуцышвілі, грузінскіх спажыўцоў цікавяць электратавары і диваны, газавыя пліты і прадукты... А ўзамен нам прапануюць цытрусавыя і віно. У магазінах грузінскае віно ёсць. Праўда, бутэлька сухога каштуе пад 500 тысяч.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

# «У АФРЫЦЫ Я МАРЫЎ...»

***(Заканчэнне.***
***Пачатак на 1-й стар.)***

**— Што вам там давялося перажыць?**

— У тых месцах, дзе мы былі, не любяць белых. Мала таго, што нас білі за тое, што мы белыя, дык нас білі яшчэ і за тое, што мы рускія. Мы гаварылі, што рускія, бо пра Беларусь яны ўсё роўна нічога не ведаюць. А каб сказаў, што я ўкраінец — забілі б зусім.

**— Я размаўляў з вашым камандзірам, Сапожнікавым, ён ужо дома, перадаваў вам прывітанне. Дык ён сказаў, што вас не білі, не катавалі...**

— Нас не білі пастаянна, нас білі перыядычна. Білі не за тое, што мы нешта зрабілі, а таму, што так прынята ў гэтай краіне — біць чалавека, разумееце? На мне яшчэ засталіся сляды ад наручнікаў (паказвае рукі з цёмнымі палоскамі). Гэта калі нас абяцалі вярнуць дамоў з Нігерыі апошні раз, а замест гэтага адправілі ў турму Фрытауна — сталіцы Сьера-Леоне. Гэта ўжо белыя пастараліся, юараўцы, што працуюць там...

**— Ці праўда, што Вы былі паранены ў руку?**

— Так, асколак трапіў мне ў руку (паказвае зноў цёмную адмеціну на правай руцэ). Мы працавалі на перавозцы грузаў, параненых — так прыйшлося...

**— Вы прымалі ўдзел у баявых дзеяннях? Вас прымушалі да гэтага?**

— Разумееце, я не магу сказаць, што наша праца была цалкам грамадзянскай. Мы перажылі чатырох прэзідэнтаў. Цяжка пра гэта гаварыць...

**— Колькі Вы ўвогуле прабылі ў Афрыцы?**

— Тры гады і адзін месяц. Я вельмі шмат бачыў. 13 лютага мы пераляцелі са Сьера-Леоне і з гэтага часу ў дачыненні да нас пачаліся жорсткія катаклізмы. Нас проста скралі з суверэннай краіны (гаворка ідзе пра Ліберыю, дзе прызямліўся верталёт з беларускім экіпажам — С. Р.) і мы 5,5 месяца жылі ў Нігерыі. У мяне Нігерыя забрала здароўя больш, чым хто-небудзь іншы. Калі нас на чатыры дні зноў пасадзілі ў турму ў горадзе, дзе я працаваў (напярэдадні вяртання дамоў экіпаж перавялі ў сталіцу Сьера-Леоне Фрытаун — С. Р.), было лягчэй, я не адчуваў такой небяспекі, што мяне заб'юць. А ў Нігерыі я кожны дзень чакаў смерці. Калі мы туды прыбылі, нас адразу папярэдзілі, што спосабаў пакінуць жыццё існуе мноства. Цябе могуць расчляніць, скінуць з верталёта і гэтак далей.

**— Што там для Вас было самым цяжкім?**

— Я ўсхваляваны... Туды, дзе я быў, я больш ніколі не збіраюся... Я марыў там, што калі вярнуся і прыеду дамоў, пацалую сваю зямлю. Самае складанае пытанне, якое стаяла там перада мной — пытанне выжывання. Нас трымалі ў няведанні ў адной з самых вялікіх краін Афрыкі. Няведанне давяло мяне да такога стану, што на нервовай глебе ў мяне адмовілі ногі, левае вока стала дрэнна бачыць і г. д. З намі жылі смертнікі — людзі, якіх потым забівалі. Таму на працягу 5,5 месяца асабіста я, не ведаю, як мае таварышы, можа, ім было лягчэй, а я быў у горшым стане, дык я кожны дзень чакаў горшага. Таму я вельмі рады, што вярнуўся на радзіму. Гавораць, Бога няма, але там я паверыў, што Бог ёсць. Калі ў Нігерыі памёр Абача — іх «Піначэт», там народ уздыхнуў свабодна, бо палова краіны сядзела ў турме.

**— Як Вас і Вашых таварышаў вызвалялі?**

— Нас забралі адтуль літаральна пазаўчора раніцай, з турмы. Мы пакінулі там усё. Калі напярэдадні мы штодня бачылі свае рэчы, дык калі забіралі... Гэта ўсё не маё, мы купілі гэта ў Маскве (паказвае на сябе і пакет у руцэ). У мяне няма грошай, я жабрак. У мяне забралі ўсё, што я зарабіў там за два гады.

**— Вы ведаеце, што кампанія, з дапамогай якой Вы трапілі ў Сьера-Леоне, адмаўляецца ад свайго ўдзелу ў гэтым?..**

— Якая кампанія? Не ведаю ніякай кампаніі! Тая кампанія, як вы гаворыце, што мяне туды адпраўляла, мне ж у свой час і гаварыла: не трэба ездзіць. Я быў пасля шасці месяцаў працы дома ў адпачынку. Але я ўжо тады згубіў шмат у грашовым пытанні. Я захацеў вярнуцца, каб атрымаць тое, што згубіў.

**— Іншымі словамі, ніякіх прэтэнзій?..**

— Так, я паехаў туды сам.

...Размову спынілі сваякі Кулькова, якія і так цярпліва чакалі разам з Васілём, калі мы пагаворым. Трэба было ехаць да мінскіх родных Кулькова, дзе ўжо чакалі, сустракалі блізкія людзі, былі накрытыя сталы. Іван Мартыновіч ехаў з імі. Мы развіталіся з Кульковым і Мартыновічам на прывакзальнай плошчы, пажадаўшы, каб тое, што яны перажылі, больш ніколі не паўтарылася ў іх жыцці. З вяртаннем вас яшчэ раз!

**Сяргей РАСОЛЬКА.**
**Фота Максіма МАЛІНОЎСКАГА.**
**На здымку**: *у абдымках сустракаючых Васіль КУЛЬКОЎ.*

*АКТУАЛЬНА*

# БАЦЬКІ ЗМОГУЦЬ АПРАНУЦЬ СВАІХ ДЗЯЦЕЙ ДА ШКОЛЫ ВА ЎСЁ НОВАЕ

***Не за гарамі 1 верасня, а значыць і пачатак новага навучальнага года. Як звычайна, бацькі напярэдадні яго заклапочаны тым, каб, адпаведна, належным чынам экіпіраваць сваіх дзяцей-школьнікаў. Які водгук знаходзяць бацькоўскія клопаты ў канцэрце «Беллегпрам» — галоўным пастаўшчыку адзення і абутку на ўнутраны рынак?***

***На гэта пытанне адказвае першы намеснік прэзідэнта канцэрна Аляксандр МІХНЕВІЧ.***

— Мяркую, што бацькі змогуць апрануць сваіх дзяцей да школы ва ўсё новае. Падрыхтоўка да школьнага сезона пачалася яшчэ ў лістападзе мінулага года, калі прадстаўнікі прамысловых і гандлёвых прадпрыемстваў на аптовым кірмашы узгаднілі, менавіта ў што апрануць школьнікаў. А сёлета ў чэрвені зноў збіраліся прадстаўнікі прамысловасці і гандлю, каб сфарміраваць канчатковы заказ. Ён ад Міністэрства гандлю склаў 34,6 тысячы сукенак, 32 тысячы касцюмаў для хлопчыкаў. Зроблены таксама заказ на іншыя рэчы.

Ужо да 15 жніўня заказ Міністэрства гандлю будзе поўнасцю выкананы па сукенках і сарафанах, штанах і школьных ранцах. Гандлюючым арганізацыям будзе таксама пастаўлена з пачатку года 35,4 тысячы касцюмаў для хлопчыкаў. Для іх жа ў ліпені—жніўні толькі ад фірмы «Эліз» у гандаль паступіць больш як 83 тысячы сарочак. Да школьнага сезона павінна таксама паступіць 62 тысячы пар абутку. Акрамя таго, зняццю напружання на спажывецкім рынку па абутку для дзяўчынак будзе садзейнічаць выпуск і пастаўка вырабаў СП «Оціка», ТАА «Сівельга» і іншых прадпрыемстваў.

Хацелася б таксама прыцягнуць увагу пакупнікоў да прадукцыі салігорскай «Калінкі», якая паставіць на рынак каля 8 тысяч сукенавых вырабаў, да элегантных камплектаў Жлобінскай швейнай фабрыкі. Разнастайную калекцыю трыкатажнага адзення як для першакласнікаў, так і для падлеткаў прапануюць пінскае «Палессе», брэсцкая фірма «Элма», мінская трыкатажная фабрыка «Алеся».

Бацькоў, безумоўна хвалюе і пытанне цэн на ўсе гэтыя вырабы. Адпускныя цэны прадпрыемстваў на сукенкі, камплекты, сарафаны вагаюцца ў межах ад 300 да 500 тысяч рублёў; на касцюмы для хлопчыкаў малодшай і старэйшай груп — у межах 600 тысяч, для падлеткаў — у межах мільёна рублёў; на дзіцячыя сарочкі — 150—170 тысяч рублёў. Штодзённы летні абутак акцыянерных таварыстваў «Чырвоны Кастрычнік» (Віцебск), «Абутак» (Магілёў), Гродзенскай абутковай фабрыкі мае адпускную цану ад 300 да 450 тысяч рублёў, а абутак СП «Чаўляр», «Ле Гранд», «Сівельга», якія выкарыстоўваюць сучасныя, больш дарагія матэрыялы будзе каштаваць ад 600 тысяч рублёў да мільёна. Гэта адпускныя цэны прадпрыемстваў. Якія яны будуць на цэнніках магазінаў, залежыць ужо ад работнікаў канкрэтных гандлёвых арганізацый.

Якія пры гэтым праблемы хвалююць нас?. Галоўная з іх — гэта недахват абаротных сродкаў, што не дазваляе некаторым прадпрыемствам своечасова арганізаваць вытворчасць неабходнага асартыменту.

Наступная праблема: ад гандлю патрэбны дакладна абгрунтаваны і, галоўнае, пацверджаны аплатай заказ. У мінулым годзе, напрыклад, больш як 4 тысячы касцюмаў для хлопчыкаў, пашытых да школьнага сезона, засталіся незапатрабаванымі гандлюючымі арганізацыямі, і амаль два мільярды рублёў, такім чынам, неабходныя для абароту, аказаліся на нашых прадпрыемствах замарожанымі на год.

Пры гэтым пакупнікі цалкам справядліва выказваюць прэтэнзіі: у фірменных магазінах, у Мінску і іншых буйных гарадах асартымент больш багаты, там заўсёды можна падабраць патрэбную рэч. Гэта пацвярджаецца і нашымі назіраннямі: ніякага ажыятажу ў Мінску, напрыклад, з адзеннем і абуткам для школьнікаў няма. І нярэдка зусім іншая карціна на перыферыі. А туды тавар не даходзіць у асноўным, на наш погляд, з-за слабай работы аптовага гандлёвага звяна.

Нарэшце, існуе праблема эканамічнай эфектыўнасці вытворчасці тавараў для дзяцей. Працазатраты на гэтыя тавары часам нават вышэйшыя, чым на дарослы асартымент, а цэны жорстка абмежаваны. Прычым не толькі органамі цэнаўтварэння, але і пакупной здольнасцю самога рынку, на якім дзіцячы асартымент раней быў традыцыйна таннейшы за дарослы. Неабходна пэўнае дзяржаўнае стымуляванне дзіцячых тавараў.

І яшчэ. Сёння школа ў цэлым адмовілася ад аднастайнай формы адзення. Але ў большасці краін свету бачыш школьнікаў, апранутых менавіта ва уніформу — уніформу канкрэтнай гімназіі, каледжа. Гэта і дысцыплінуе дзяцей, і псіхалагічна ўраўнаважвае іх, і падымае прэстыж навучальнай установы. Гэта, нарэшце, проста прыгожа. Калі сёння кіраўнікі навучальных устаноў згодны з такім пунктам гледжання, няхай звяртаюцца ў канцэрн, непасрэдна на нашы прадпрыемствы. Мы гатовы дапамагчы ім у распрацоўцы фірменнага стылю школьнага адзення. І, вядома ж, вырабім яго.

## ...ага акцыянернага таварыства ...г. Гомель» Канстанцін КАСТЭНКА:

# ...овах вытворчыя калектывы ... яны павінны мець у сваім ...я і стратэгічныя напрацоўкі ...ляць на практыцы»

апошнія 8—10 гадоў мелі магчымасць паглядзець, што робіцца на Захадзе, якія там справы. Раней такіх камандзіровак у нас не было па вядомых прычынах. І мы ўбачылі тую розніцу, якая была як у кваліфікацыі людзей (рабочых і ІТР), так і ў якасці машын, іх аснашчанасці прыборамі аўтаматыкі, гідраўлікі, складанай пнеўматыкі, арганізацыі працы (забеспячэнне матэрыяламі, складанне графікаў работ і да т.п. Калі мы ўсё гэта паглядзелі, прааналізавалі і пачалі займацца работамі па-новаму (набылі сучасныя тэхналогіі, тэхніку, хай сабе і не новенькую, але ўсё ж сучасную, навучылі свае кадры), то сталі будаваць дарогі ў шэрагу выпадкаў не горш, чым заходнія спецыялісты. Згодзен, што ў цэлым наш сярэдні ўзровень будаўніцтва яшчэ застаецца ніжэйшым за іхні, але мы на шляху да таго, каб дасягнуць іхніх вышынь літаральна ва ўсіх адносінах.

Ад чаго залежыць якасць дарог? Ад трох «кітоў». Першы — якасць дарожна-будаўнічых матэрыялаў (бітум, шчэбень і дабаўкі для прыгатавання асфальтабетону); другі — захаванне неабходных тэхнічных патрабаванняў да ўсіх канструктываў (зямлянога палатна, дрэніруючых слаёў, падмурка і да т.п.). Напрыклад, ушчыльненне не павінна быць ніжэй патрабуемага паказчыка, павінна вытрымлівацца геаметрыя, як і ўсё астатняе. Многае залежыць і ад таго, якім спосабам ці метадам гэта робіцца. Калі механізаваным шляхам, і машына абсталявана сістэмамі аўтаматыкі, сачэння за якасцю, дык там усё будзе выконвацца як след, на належным узроўні. І нарэшце, трэці «кіт» — кваліфікацыя персаналу (рабочых, ІТР). Мы, паўтараю, маем усё неабходнае, каб выконваць работы на самым высокім узроўні, што і даказалі сваімі практычнымі справамі.

**— Напэўна, апошнім часам вы тэхнічна вельмі «падкаваліся»?**

— Сапраўды, пытанням тэхнічнага пераўзбраення і новай тэхнікі мы надаём першараднае значэнне, бо ў канкурэнтнай барацьбе гэта далёка не апошні фактар. У нас маюцца добрыя напрацоўкі па тэхналогіі гарачага рэміксавання, аб чым я ўжо гаварыў. Дарэчы, нашы рэміксеры зараз працуюць у Магілёве. Тое ж можна сказаць і аб тэхналогіі халоднага рэміксавання. Укараненне ў вытворчасць эмульсій у параўнанні з прымяненнем бітуму дае велізарную эканомію энергарэсурсаў і з'яўляецца даволі перспектыўнай справай. Зараз з аўстрыйскай фірмай наш калектыў рыхтуецца выраблять матэрыялы для разметкі дарог з выкарыстаннем халодных тэрмапластыкаў метадам распылення. Такая разметка, акрамя таго, што валодае святлоадбівальным эфектам (пад уздзеяннем фар аўтамашын добра відаць уначы), не разбураецца і не сціраецца два-тры гады.

Вельмі цікавыя задумкі ў нас і па ўкараненню землярыйнай і ўшчыльняльнай тэхнікі. Так, мы выкарыстоўваем вібрацыйны каток нямецкай фірмы вагой у дзесяць тон. У чым яго перавага? А ў тым, што ён замяняе сабой такі ж каток у шэсцьдзесят тон вагой, але без вібрацыі. Дык уявіце, колькі мы эканомім пры дастаўцы таго катка на будаўніцтва дарогі. Ёсць і добрыя напрацоўкі па мадыфікацыі бітуму. Што гэта такое? Каб пакрыццё на дарогах было больш даўгавечным, будзем выкарыстоўваць не звычайны бітум, які валодае вялікай крохкасцю, а ўвядзём у яго сінтэтычныя дабаўкі, што зробіць яго больш пругкім, пластычным. Гэта таксама вельмі сур'ёзны напрамак работы, бо пасля зімы з-за вялікіх перападаў тэмпературы на дарогах з'яўляюцца шматлікія трэшчыны, і іх трэба залапліваць.

Маем мы намер укараніць у вытворчасць і так званы кубападобны шчэбень, які будзе садзейнічаць куды больш трывалай структуры асфальтабетону, чым шчэбень звычайны. Адным словам, мы плённа працуем над укараненнем дасягненняў навукова-тэхнічнага прагрэсу.

**— Кажуць, што вы і кнігу па гэтай актуальнай тэме выдалі?**

— Я толькі адзін з групы маскоўскіх і беларускіх аўтараў кнігі аб перадавых тэхналогіях у дарожным будаўніцтве, такіх, як гарачае і халоднае рэміксаванне і да т. п.

**— А колькі ў вашага акцыянернага таварыства дзелавых партнёраў, якія адносіны з імі і формы ўзаемаразлікаў?**

— Партнёраў шмат. У пастаўцы матэрыялаў стабільнымі з'яўляюцца Мазырскі і Наваполацкі нафтаперапрацоўчыя заводы, Крычаўскі цэментны завод, Мікашэвіцкае дзяржаўнае прадпрыемства «Граніт» і іншыя. Мы стараемся пазбягаць бартэрных формаў разлікаў, бо ён, бартэр, нагадвае сабой злаякасную пухліну, якая ахоплівае ўсе сферы дзейнасці, і грошы пры гэтым губляюць сваю першапачатковую вартасць. Але ж, праўда, бываюць моманты, калі і бартэр нам выгадны.

Карацей кажучы, адзінага падыходу да разлікаў няма. Вельмі многае тут будуецца на даверы. У пастаянных і надзейных партнёраў, напрыклад, пад аванс можна многае ўзяць. Так мы працуем з іншаземнымі фірмамі. Нам, дарэчы, давярае нямецкая фірма «Віртген» — адна з самых магутных у Еўропе, якая ў якасці авансу прадастаўляе нам запчасткі да машын і механізмаў, дае бясплатна ў арэнду тэхніку. Іншы раз па такой сістэме мы працуем і з аўтамабілістамі. А з некаторымі партнёрамі мы працуем па папярэдняй аплаце. А што датычыць дэбіторскай запазычанасці, дык і тут няма адзінага падыходу. Адны за нашу работу разлічваюцца своечасова і добрасумленна, а за другімі даводзіцца, як кажуць, ганяцца з прыцягненнем арбітражных, гаспадарчых судоў. Так што тут раз на раз не прыходзіцца.

**— У Гомелі ёсць гарадскі ДБТ. Але сёлета ў абласным цэнтры і вам давялося нямала папрацаваць. Чым гэта выклікана?**

— Кіраўнікі горада і вобласці бачылі, што гарадскі трэст сам пакуль не ў стане навесці парадак на вуліцах, якія ўяўлялі сабой відовішча, вартае жалю. Яны і папрасілі нас дапамагчы. Дарэчы, нам гэта было эканамічна выгадна.

**— Што ўяўляе сёння ваш калектыў, ці задаволены ім асабіста вы?**

— У нашым акцыянерным таварыстве зараз восем будаўніча-мантажных упраўленняў, камбінат будматэрыялаў, ПМК, упраўленне вытворча-тэхналагічнай камплектацыі і апарат трэста. Усяго ў ім 1980 працуючых. Ці задаволены я калектывам? Мне складана ўявіць сабе бацьку, які б гаварыў, што яму не падабаюцца яго дзеці — няхай яны будуць добрыя ці дрэнныя, але ж яны — мае і мне дарагія. І, вядома ж, усё, што ёсць у нашым калектыве — і добрае, і дрэннае — гэта наша, гэта маё. У цэлым наш калектыў працаздольны, старанны, і я ганаруся ім і, віншуючы



Адзін з аб'ектаў, пабудаваных ДБТ-2 на паўночна-заходняй ускраіне Гомеля, транспартная развязка.

рабочых, інжынерна-тэхнічных работнікаў трэста з прафесійным святам — Днём будаўніка, дзякую ім за добрую работу.

**— А якія сацыяльна-бытавыя ўмовы гомельскіх дарожнікаў?**

— У нас маюцца ўпраўленні, якія і ў сацыяльным плане вырашаюць свае праблемы. Гэта значыць, там ёсць сталовыя, перасовачныя пункты харчавання на дарогах, фізкультурна-аздараўленчыя комплексы і спартыўныя пляцоўкі, дзіцячыя сады, клубы. А фізкультурна-аздараўленчы комплекс ДБУ-17 з'яўляецца адным з лепшых у Гомелі, дзе можна і спортам заняцца, і адпачыць, і палячыцца ва ўрачэбных кабінетах.

Тым не менш, скажу, што быў у нас такі перыяд, калі гадоў сем асаблівых фінансавых уліванняў у сацыяльную сферу зрабіць мы не маглі, і гэта мы будзем зараз выпраўляць. Што ж датычыцца жылля, дык раней для сваіх работнікаў мы будавалі ў год да 70 кватэр. Зараз, праўда, узводзім іх менш. Але ў нас цяпер з'явілася катэджная база, і мы распрацавалі палажэнне, па якому далі вялікія льготы ветэранам вытворчасці. А менавіта: хто прапрацаваў у нас больш за дваццаць гадоў, можа атрымаць той катэдж бясплатна. Акрамя таго, трэст выдае сваім работнікам крэдыты для куплі кватэр. У далейшым, як і зараз, у гэтых пытаннях усё будзе залежаць ад узроўню нашага прыбытку.

**— Якія, на ваш погляд, «шлагбаумы» неабходна было б убраць на шляху дарожнікаў рэспублікі?**

— Іх нямала — і натуральных, і штучных. І іншым разам барацьба з імі нагадвае барацьбу з ветракамі. Вось толькі некалькі прыкладаў.

Чым больш хочаш працаваць і прыносіць валюту рэспубліцы, тым болей становішся аб'ектам вельмі ўжо празмернай увагі кантралюючых органаў. Не перабольшваю: вельмі цяжка пераносіць усе гэтыя бясконцыя праверкі. Ствараецца ўражанне, што нам не давяраюць, а падазраюць у нечым дрэнным. Паверце, у такой сітуацыі не толькі мы. Гэта — агульнарэспубліканская праблема.

Далей. Сама сістэма падаткаабкладання сёння пастаўлена так, што ў дастатковай ступені не стымулюе рэнтабельныя і прыбытковыя арганізацыі і прадпрыемствы. Атрымліваецца парадокс: іншым разам на падаткі ідзе амаль увесь прыбытак, бо чым ён большы, тым большыя (ледзь не ў геаметрычнай прагрэсіі) і падаткі. У гэтым выпадку ў нас, вытворцаў, не застаецца грошай для тэхпераўзбраення. Мы не супраць падаткаў, хай сабе і вялікіх, аднак у іх павінен быць парог, пэўная мяжа, якія і патрэбна вызначыць адпаведным органам. Гэта таксама агульнарэспубліканская праблема.

І яшчэ. Лічу, што сучасная сістэма аплаты працы не стымулюе прадуктыўную працу. На мой погляд, тая разнастайнасць тарыфных разрадаў, якая ўведзена зараз, сябе не апраўдвае. Бо работнікі павінны ў аплаце працы адрозніваюцца адзін ад аднаго больш значна, па чатырох-пяці катэгорыях, тады яны будуць імкнуцца, калі можна так сказаць, «па-буйному» перайсці ў больш высокую катэгорыю. Зараз жа розніца ў аплаце працы, напрыклад, 12-га і 13 разраду складае нязначную суму. Дык які сэнс тут дыферэнцыраваць працу?

Паглядзім і на сам узровень зарплаты. Напрыклад, у агульнай сістэме будмантажу ён пастаянна падае. Калі раней ён даходзіў да 12 працэнтаў, дык зараз знізіўся да 7-8 працэнтаў. І над гэтым таксама варта задумацца.

**— А якая самая запаветная мара ў генеральнага дырэктара акцыянернага таварыства Кастэнкі?**

Канстанцін Канстанцінавіч на хвілінку задумаўся, потым адказаў:

— Стварыць такую абстаноўку ў трэсце, каб чалавек ішоў на працу, як на свята.

**— Мы жадаем вам хутчэй дасягнуць гэтага.**

— Дзякую на добрым слове.



Вядучы інжынер цэнтральнай лабараторыі Святлана Зіганшына выпрабоўвае ўзоры асфальтабетону.



Выраб дзвярных блокаў.



На гэтай установцы вытворчасці іншаземнай фірмы рыхтуецца бітумная эмульсія.

Інфармацыйна-рэкламны матэрыял падрыхтаваў **Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**





У брыгадзіра мантажнікаў Сяргея Мандрыка добры настрой.



Трэст узводзіць жыллё па прэзідэнцкай праграме ў пасёлку Бардзін Гомельскага раёна.

КІРМАШ

ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

№ 31 (149)



## ПРАДАЕЦЦА

● л/а «Форд-фіеста» 1978 г. в., замена рухавіка 1991 г., кап. рамонт 1997 г. *Тэл. у Клецку 4-24-94 пасля 17.00.*

● швейная машына «Орша», 2-месная гумавая лодка, танна. *Тэл. у Брэсце 43-18-71.*

● л/а «VW-джэта» 1985 г. в., бензін 1,6 л, белы, 3300 у. а. *Тэл. (8-291) 2-47-74.*

● л/а «VW-джэта», 1983 г. в. у добрым стане. *Тэл. у Валожыне 5-84-49.*

● дом з г/пабудовамі ў Валожынскім раёне, маецца калодзеж, гараж, лазня, сад, участак 30 сотак. *Тэл. у Івянцы 5-34-82.*

● кватэра 3-пакаёвая ў к. п. Нарач з усімі выгодамі. *Тэл. у Мядзелі 5-81-11.*

● дом з г/пабудовамі, участак 18 сотак у в. Ракаў (35 км ад Мінска). *Тэл.: (8-01772) 5-44-83; 5-22-97.*

● камбайн «Дон 1500» б/к. *Тэл. (8-017) 251-06-48.*

● дом з г/пабудовамі, участак 10 сотак, сад, у в. Іканы Барысаўскага р-на, 3000 у. а. *Тэл. 7-94-73.*

● секцыя «Палессе», спальня, кухня, нядорага. *Тэл. у Мінску: 220-13-32; 222-92-60.*

● «ВАЗ-21061» 1984 г. в., танна. *Тэл. 242-95-55.*

● палова дома ў г. Ваўкавыску (гараж, газ, вада, г/пабудовы, участак 10 сотак) танна. *Тэл. (8-01512) 3-20-87.*

● катэдж з г/пабудовамі, гараж у г. Старыя Дарогі або абмяняю на кватэру ў Гомелі. *Тэл. у Хойніках (8-246) 2-51-59.*

● зруб 7,5 х 8,0, нядорага ў Пухавіцкім раёне. *Тэл. (8-213) 7-42-11 пасля 21.00.*

● недабудаваны дом у в. Нарач з будматэрыяламі, танна. *Тэл. у Мядзелі (8-297) 4-63-03.*

● дом пад дачу або на знос; матацыкл «Ява 350/634» з каляскай, усё танна. *Тэл. у Маладзечне 6-72-58.*

● «Опель-кадэт» 1982 г. в., 1600 у. а., торг; «Форд-гранада» універсал, 1979 г. в., газ-бензін, 2,3 л. 1300 у. а. г. Клічаў. *Тэл. (8-236) 2-16-80.*

● «Масквіч 2140», 1978 г. в., рухавік 1986 г., танна. *Тэл. у Брэсце 43-18-71.*

● «Міцубісі-кольт» у выдатным стане, патрабуецца дробны рамонт, танна. *Тэл. (8-215) 5-32-56.*

● «ВАЗ-21013» 1981 г. в., поўны кап. рамонт, выдатны стан. *г. Смаргонь, вул. В. Сінкевіч, д. 7, кв. 44.*

● матацыкл «ІЖ-Ю2К» у Мінскім раёне. *Тэл. (8-017) 299-26-64 пасля 21.00.*

● дом (у магілёўскім напрамку, 30 км ад Мінска) гараж, лазня, г/пабудовы. *Тэл. 243-39-91.*

● кацёл ацяпляльны з батарэямі, вуллі, машыну «ЛуАЗ», вокны. *Тэл. 232-88-79.*

● жарэбчык 1,5 года ў в. Заеліца Глускага раёна. *Тэл. 3-17-13.*

● кватэра 3-пакаёвая ў Слоніме, пабудаваная турэцкай фірмай. *Тэл. (8-297) 4-76-52.*

● трактар «Т-25», прычэп і інш., 1500 у. а. *Тэл. у Ваўкавыску (8-212) 5-12-11.*

● палова новага цаглянага дома ў Слоніме (3 пакоі, кухня, газ, вада), маецца хлеў, гараж, зямельны ўчастак. *Тэл. 2-70-47.*

● л/а «Аўдзі-90» 1985 г. в., бензін, V-2 л., люк, цэнтральны замок у Валожыне. *Тэл. (8-272) 5-52-85.*

● «ВАЗ-2103» 1976 г. в., 1100 у. а. *Тэл. у Пастаўскім раёне 3-63-35.*

● аўтамабіль «ГАЗ 69 А» у добрым стане з з/ч. у г. Дзятлава. *Тэл. (8-263) 2-53-12.*

● кватэры ў цэнтры г. Дзятлава: 2-х і 3-пакаёвая з усімі выгодамі. *Тэл.: (8-01563) 2-28-08; 2-17-10.*

● «ВАЗ-21063» 1990 г. в., бензін-газ, пафарбаваная, не бітая, 2200 у. а. *Тэл. у Нясвіжы (8-270) 2-13-37.*

● кватэра 3-пакаёвая ў г. п. Крывічы Мядзельскага раёна, з усімі выгодамі. *Тэл.: 4-32-72; 4-32-14.*

● хлеў памерам 6 х 11. *Тэл. у Вілейцы 5-23-33; 6-35-05 вечарам.*

● трактар «МТЗ-50» у добрым стане, 1500 у. а. *Тэл. (8-02136) 3-16-64.*

● тэрмінова, дом з г/пабудовамі, тэлефонам, участак 10 сотак у Лагойску. *Тэл. (8-01774) 5-95-01.*

● кватэра 3-пакаёвая. *Тэл. у Навагрудку 2-04-00.*

● катэдж у в. Тракенікі Астравецкага раёна, тэлефон, 2 гаражы. *Тэл. у Астравецкім раёне 2-36-12.*

● дом з г/пабудовамі ў в. Альбянка Нясвіжскага раёна, маецца калодзеж, сад, участак 25 сотак, 1900 у. а. *Тэл. (8-293) 4-26-47.*

● «ВАЗ-2103» прабег 75 тыс. км, або абмяняю на трактар «Т-25»; персанальны камп'ютэр. *Тэл. (8-256) 2-48-84.*

● трактар «МТЗ-50» з рухавіком «Д-240», прычэп 2ПТС-4. *Тэл. у Навагрудку 2-24-15.*

## РОЗНАЕ

● абмяняю на трактар ці легкавы аўтамабіль дом цагляна-блочны 9 х 11 з г/пабудовамі, гаражом, агарод 25 сотак. *Тэл. у Шаркаўшчыне Віцебскай вобл. 2-10-34.*

● мяняю л/а «VW-джэта», 1984 г. в., на трактар МТЗ, Т-25. *Тэл. (8-017) 251-06-48.*

● куплю старыя фотаапараты, аб'ектывы, значкі і інш. *Тэл. 253-24-41.*

● мяняю палову дома ў в. Асінаўка (3 км ад Смаргоні) на 1-пакаёвую кватэру ў Маладзечне, Смаргоні ці прадам. *Тэл. у Смаргоні 3-61-16 пасля 18.00.*

● мяняю 2-х і 1-пакаёвую кватэры ў г. Петрапаўлаўску-Камчацкім на 2-пакаёвую ў Мінску. *Тэл. (8-017) 251-06-48.*

● куплю дом у Пухавіцкім ці Чэрвеньскім раёнах. Звяртацца: *213725, Асіповіцкі раён, п/а Градзянка, Кавэцкаму Станіславу С.*

● здаецца пакой у доме на беразе Нарачы. *Тэл.: (8-297) 3-61-09; 260-97-51.*

● мяняю «Ніву» 1982 г. в. патрабуе рамонту, на «VW-гольф-2» або «VW-джэта-1». *Тэл. у Мастах 2-63-28 пасля 20.00.*

## ВІНШАВАННІ

Віншуем **Святлану Вікенцьеўну ДУДЗІЧ** з днём нараджэння. Здароўя, удачы, поспехаў у вучобе, шчасця ў жыцці табе, дачка.

**Бацькі,** г. Воранава.

Віншуем з днём нараджэння дарагога мужа, тату і дзядулю **Антона Іосіфавіча РАВЯКУ** з Івянца. Жадаем моцнага здароўя, доўгіх гадоў жыцця, шчасця і радасці.

**Жонка, дзеці, унукі.**

Віншуем з 75-годдзем матулю і бабулю **Кацярыну Максімаўну ДРОНЧАНКА.** Жадаем здароўя, дабрабыту і яшчэ 100 гадоў шчаслівага жыцця.

**Дзеці, унукі,** Крупскі раён.

Дарагая **Марыя Антонаўна РАДЫНА,** з в. Славенск Валожынскага раёна, віншуем цябе з 70-годдзем. Каб яшчэ доўга сагравала нас сваім цяплом, радавала ўсмешкай і бадзёрым настроем.

**Родныя.**

Віншуем дарагога тату і дзядулю **Казіміра Іванавіча КАСЦЕВІЧА** з в. Панкраты Вілейскага раёна з 60-годдзем. Жадаем здароўя, даўгалецця, шчасця і ўсяго найлепшага.

**Дачка, зяць, унукі.**

Віншуем з 20-годдзем любімага і дарагога сына, **Валянціна Валянціновіча БЯЛЬКО.**

*«Желанья наши так просты: пусть сбудутся твои мечты,*
*здоровья крепкого на много лет и никогда не видеть бед».*

**Бацькі,** в. Коплічы Калінкавіцкага раёна.

Віншуем з 70-годдзем любага нам **Аляксандра Іванавіча ПЯТРОВА** з пас. Усяж. Жадаем здароўя, шасця, дабра.

**Дзеці, унукі, жонка.**

Віншую з днём нараджэння дарагую сястрычку **Наталлю Мікалаеўну КАЎЦЭВІЧ.**

*Жадаю шчасця, здароўя, удачы.*
*Нехай абмінаюць бяда і трывога*
*і стомы не чуй ад жыццёвай дарогі.*

**Ліда,** г. п. Любча.

Ад усяго сэрца віншуем **Галіну Аляксандраўну КАРЛЮКЕВІЧ** з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя на доўгія гады.

**Скорабагатавы, Румянцавы.**

## Магілёўскія ліфты для Вялікага тэатра ў Маскве

Першую партыю спецыяльных ліфтаў для Вялікага тэатра ў Маскве, у якім цяпер ідзе рэканструкцыя, адправіў Магілёўскі ліфтабудаўнічы завод. Усяго будзе выраблена адзінаццаць пад'ёмнікаў, у тым ліку і грузавых.

Увесь заказ, агульны кошт якога ацэньваецца ў 418 тысяч долараў ЗША, магілёўскія ліфтабудаўнікі абавязаліся выканаць у верасні.

Конкурс на выраб ліфтаў для Вялікага тэатра магілёўскі завод выйграў у дзесяці расійскіх і міжнародных спецыялізаваных фірмаў. Сваю прадукцыю гэта прадпрыемства пастаўляе цяпер практычна ва ўсе рэгіёны Расіі.

**Мікалай НАЗАРОВІЧ, БЕЛТА.**



*СПАЖЫВЕЦ*

## Беларускія тавары бытавой хіміі — на вышыні

**Падведзены вынікі конкурсу «Экабытхім», арганізаванага Беларускай экалагічнай партыяй сумесна з Беларускім таварыствам абароны спажыўцоў сярод вытворцаў і пастаўшчыкоў тавараў бытавой хіміі.**

У навукова-вытворчым прадпрыемстве «Прагрэс» прадстаўленыя на конкурс узоры прайшлі тэсціраванне па чатырох параметрах: даследаваліся іх мыючыя здольнасці, ачышчальны эфект, уздзеянне на скуру рук і ўзровень выдзялення таксічных рэчываў у навакольнае асяроддзе.

Пераможцам у намінацыі «Сінтэтычны мыючы сродак для мыцця тканін» стаў «Виксан М», які атрымаў права размяшчаць на сваёй упакоўцы на працягу года эмблему Беларускай экалагічнай партыі як сімвал прызнання яго экалагічных вартасцяў. А лаўрэатамі ў гэтай намінацыі сталі вадкія сродкі «Вита-дом», «Виксан-универсал», парашкі «Аксамит—ультра» і «Мильва».

Лепшым жа ачышчальным сродкам для посуду былі прызнаны парашок «SCHEVER PULVER» і вадкі «Вита-дом» для посуду. А «Виксан» і «Жемчуг М» трапілі ў гэтай намінацыі ў лаўрэаты.

Яшчэ ў дзвюх намінацыях «Спецыяльныя ачышчальныя сродкі» і «Асвяжальнікі паветра» пераможцаў не аказалася, але ўсё ж высокія спажывецкія якасці прадукцыі ЗАТ «Белбыткамплект» і ААТ «Брэсцкі завод бытавой хіміі» не засталіся незаўважанымі журы, у выніку чаго сродкі «Вита-дом» для вокнаў і для дываноў, а таксама асвяжальнік «Флюид-сирень» атрымалі дыпломы лаўрэатаў.

Магчыма, чытачоў зацікавіць пытанне, чаму ў кола пераможцаў не трапілі такія суперпапулярныя сёння «Тайд», «Арыэль», «ОМО», «Комет» і іншыя добра знаёмыя нам калі і не па ўласнай практыцы, то па тэлевізійнай рэкламе тавары. Справа ў тым, што іх пастаўшчыкі не палічылі патрэбным прыняць удзел у рэспубліканскім агульнаграмадскім конкурсе.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**



*ПАВЕДАМЛЯЕ ПРЭС-ЦЭНТР ДЗЯРЖАЎНАГА ПАДАТКОВАГА КАМІТЭТА*

## Падатковая дысцыпліна жадае быць лепшай

На чарговым пасяджэнні калегіі Дзяржаўнага падатковага камітэта разгледжаны вынікі кантрольнай работы падатковых органаў за першае паўгоддзе.

За гэты перыяд праверана 29,5 тысячы прадпрыемстваў, 64,4 працэнта з іх маюць парушэнні падатковага заканадаўства. Пры гэтым 67 працэнтаў парушэнняў прыпадае на прадпрыемствы недзяржаўнай формы ўласнасці.

Таксама дакументальна праверана 47 тысяч прадпрымальнікаў. Парушэнні ўстаноўлены ў 19 з паловай тысяч.

Па выніках праведзеных праверак даналічана падаткаў, іншых абавязковых плацяжоў і прыменена фінансавых санкцый на суму 9,8 трыльёна рублёў, з якіх 81,6 працэнта прыпадае на прадпрыемствы недзяржаўнага сектара эканомікі. За першае паўгоддзе да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнута 58,5 тысячы службовых асоб, якія атрымалі адміністрацыйных штрафаў на 41 мільярд рублёў.

Дзяржаўны падатковы камітэт звяртае ўвагу падаткаплацельшчыкаў усіх формаў уласнасці на стан разлікаў з бюджэтам і заклікае іх да добрасумленнага выканання сваіх падатковых абавязацельстваў.

## Асабістае жыццё

**Аб. 785.** Для стварэння сям'і пазнаёмлюся з простай, гаспадарлівай жанчынай да 30 гадоў без шкодных звычак з Гродзенскай ці Мінскай абласцей. Пісаць: 231000, г. Смаргонь да запатрабавання, п/пашпарта КН 0076760. Гродзенская вобласць.

**Аб. 786.** Мужчына 56 гадоў шукае спадарожніцу жыцця. Аб сабе: рост 168, адукацыя сярэдне-спецыяльная, маю жыллё, згодзен на пераезд. Пісаць: 231551, г. Шчучын, галоўны паштамт, да запатрабавання, уладальніку пашпарта № 644126.

**Аб. 787.** Мужчына 52/186 без ш/звычак пазнаёміцца са зграбнай жанчынай для стварэння сям'і, чакаю фота. Пісаць: 231416, Гродзенская вобласць, Навагрудскі раён, в. Лешчанка, Снігіру Г.К.

**Аб. 788.** Шукаю жанчыну 40—45 гадоў і ростам 150—157. Звяртацца: 222120, г. Барысаў-11, а/с 340.

**Аб. 789.** Пазнаёмлюся з сур'ёзнай жанчынай для стварэння сям'і, згодны на пераезд. Калі ёсць дзіця, не перашкода. Матэрыяльна забяспечаны. Аб сабе: Васіль, 33 гады, рост 179, Віцебская вобласць.

**Аб. 790.** Добры хлопец, без шкодных звычак, па гараскопу Шалі, рост 174, 22 гады, пазнаёміцца з сімпатычнай дзяўчынай да 22 гадоў. Пішыце, адкажу ўсім (г. Слонім).

**Аб. 791.** Для стварэння сям'і пазнаёмлюся з мужчынам ва ўзросце 30—40 гадоў пажадана з Мінска ці Мінскай вобласці. Аб сабе: 29/164, шатэнка, прыемнай знешнасці, па характару добрая, адукацыя вышэйшая, жыву ў сельскай мясцовасці, маю 3-пакаёвую кватэру. Судзімых прашу не турбавацца. Для перапіскі высылайце фотакартку.

**Аб. 792.** Пазнаёмлюся з мужчынам да 43 гадоў для сумеснага жыцця. Аб сабе: 36/162/62, маю дачку. Судзімых і пітушчых прашу не турбавацца.

**Аб. 793.** Пазнаёмлюся з добрай, сціплай жанчынай, якой надакучыла адзінота, і звяжу з ёй свой лёс. Аб сабе: удавец, 53 гады, не пітушчы, не куру, жыву ў г. Жабінка.

**ЗВЯЗДА**

**Купон для бясплатнай прыватнай аб'явы**

**Запоўніце разборліва, выражце і вышліце на адрас рэдакцыі 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10 А.**

**АБАВЯЗКОВЫЯ звесткі не для друку: ваша прозвішча, адрас, хатні тэлефон.**

**Тэлефон для даведак 232-31-98.**

*Увага! Неразборліва запоўненыя купоны не разглядаюцца і не вяртаюцца.*
*Пры віншаванні ўказвайце прозвішча, імя, імя па бацьку таго, каго трэба павіншаваць.*

# Як мы адпачываем?

***Камусьці падабаецца восень, хтосьці адпачывае душой толькі зімой, некаму даспадобы вясна — як кажуць, на колер і густ таварышаў няма. І, тым не менш, большасць з нас адпачынкі бяруць менавіта летам. Так ужо павялося. І ізноў-такі, нехта пакуе чамаданы і едзе на поўдзень на мора (здараецца, без жонкі і, калі спякота, а спякота там заўсёды, то без заручальнага пярсцёнка), некаму прыемна пабыць у вёсцы, хтосьці прызвычаіўся працаваць акі пчолка і наогул не адпачываць. Дарэчы, вырашыўшы пацікавіцца на прадмет «Дзе вы адпачывалі ці будзеце адпачываць у гэтым годзе?», мы з непамерным гонарам канстатавалі, што ў асноўным нашымі рэспандэнтамі аказаліся «пчолкі».***

### ЧЭМПІЁН МАЕ ПРАВА АДПАЧЫЦЬ НА КІПРЫ

Чэмпіён свету па спартыўнай гімнастыцы Іван Іванкоў, зусім нядаўна стаўшы яшчэ і залатым прызёрам Гульняў добрай волі, акурат у гэты час знаходзіцца ў Лос-Анджэлесе, дзе, як кажуць, сумяшчае прыемнае з карысным — і справы вырашае, і адпачывае. Праўда, як расказаў нам брат Вані, апошні планіраваў пасля прыезду з Амерыкі яшчэ з'ездзіць куды-небудзь на мора дзён на дзесяць. У мінулым годзе Іван разам з бацькам 12 дзён адпачываў на Кіпры.

### «Д'Я-БАЛЬ-ШЧЫ-НА» КАМПАЗІТАРА ЭДУАРДА ХАНКА — ЁН НЕ МОЖА АДПАЧЫЦЬ

Як высветлілася, хоць Эдуард Сямёнавіч і праславіўся «паталком ледзяным, дзвярыма скрыпучымі», аднак у гэтым годзе яму хутчэй за ўсё не давядзецца адпачыць ні зімой з «ледзяным паталком», ні летам. Фестывалі, паездкі, фестывалі...

Адным словам, калі і ёсць час адпачываць, то толькі падчас працы. А тут яшчэ і нядаўна выйшаўшая скандальная кніга Эдуарда Ханка «Пу-га-чоўшчы-на», у якой беларускі кампазітар дасканала «перамыў косці» расійскім зоркам эстрады. Тут ужо не да адпачынку! Праўда, нядаўна Эдуард Сямёнавіч быў на фестывалі ў Ялце і там паспеў крыху загарэць і, кажуць, паганяць хвалі.

### <u>Мікалай АНАНЬЕЎ:</u> «З'ЕХАЦЬ БЫ КУДЫ ПАДАЛЕЙ...»

Міністр спорту і турызму Мікалай Ананьеў да пытання карэспандэнта «Звязды» аднёсся як да нечага нерэальнага: «Што вы?! Адпачынак мне і не сніўся! Столькі працы, што і прадыхнуць няма калі. А ўвогуле, калі б была такая магчымасць, то паехаў бы куды падалей і абавязкова хацелася б пабыць аднаму. Куды? Ну, скажам, у які-небудзь ціхі, прыгожы куточак Беларусі».

### ДЗІМА ДАШЧЫНСКІ ЎВЕСЬ ГОД КУЛЯЕЦЦА БЕЗ АДПАЧЫНКУ

Асабіста ў мяне ад такога жыцця, як у бронзавага прызёра Зімовай Алімпіяды ў Нагана, мінчаніна Дзмітрыя Дашчынскага, галава б дакладна пайшла кругам. Мала таго, што на спаборніцтвах па фрыстайлу даводзіцца кульбіты праз галаву круціць, дык яшчэ і экзамены ў вольны час даводзіцца здаваць у гуманітарна-эканамічным недзяржаўным інстытуце. А ўжо зусім хутка ізноў трэба адпраўляцца ў Аўстралію на чарговы этап Кубка свету. Эх, спакой нам толькі сніўся!

*...Мы, безумоўна, правялі выбарачнае апытанне, таму, каго не патурбавалі, выбачайце. А ўвогуле, тым, хто яшчэ збіраецца ісці ў адпачынак, жадаем шчасліва адпачыць, тым жа, у каго водпуск ужо закончыўся, можам толькі сказаць: «Чалавек мае права як на адпачынак, так і на працу». Усяго добрага!*

**Алесь СІВЫ.**




**Міністэрствам сувязі Рэспублікі Беларусь 5 жніўня ўведзены ў абарачэнне новыя паштовыя маркі: «КАЛЯДНАЯ ЗВЯЗДА» наміналам 2000 руб., «КУПАЛЛЕ» наміналам 10000 руб.**

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА, БЕЛТА.**




*ЛЕТНІ НАРОДНЫ КАЛЯНДАР*

## ЖНІВЕНЬ

**11/29.** Калі ў гэты дзень туман — рыхтуй свіран пад авёс і ячмень.

**12/30. Сіла (Іван).** У праваслаўным календары гэты дзень прысвечаны апосталам ад 70-ці: Сіле, Сілуану, Крыскенту, Епенету, Андроніку, а таксама пакутніку Іаану Воіну і іншым. Народны каляндар сярод іх выдзеліў дваіх. Пра аднаго з іх у народзе кажуць: «Хто на Сілу жыта пасее, у таго на хлеб надзея». Да гэтага часу ўжо вызвалялася нямала палёў і неабходна было распачынаць новую сяўбу. Як сведчыць Е. Раманаў, за Іванам у народзе замацавалася функцыя абаронцы ад злодзеяў. Прататып яго — пакутнік Іаан (IV ст.) быў воінам у імператарскім войску Юліана Адступніка, што накіроўваў сваіх узброеных падданых забіваць хрысціян. Але Іаан Воін вызваляў іх, за што і быў пасаджаны ў цямніцу. Тут, магчыма, народны вобраз мае частковае і выпадковае супадзенне з хрысціянскім.

**13/31. Спасаўскія запускі** — пярэдадзень Спасаўскага посту.

**14/1. Макавей (Макава, Макаўе, Першы Спас, Спас Мядовік, Медзяны Спас)** — свята маку і мёду. Праводзілі абрады з макам, ужывалі ў ежу, рабілі варэнікі з мёдам, а таксама елі тое, у што можна было макаць. Асвячалі ваду, зёлкі, садовыя кветкі, моркву, сланечнік. Елі пірагі з макам і морквай. Ведалі: на Макавея трэба ўволю наесціся маку. На Тураўшчыне «глухі мак свецілі і осыпалі хлеў, хату от нябожчыкаў. І ек на суд ішлі, то кругом себе осыпалі». Варажылі: «Макавею, Макавею, я на цябе канапелькі сею. Скажы мне, Макавею, дзе мая пара, каб я з ім у гэтую ноч канапельку брала» (Брагінскі раён). Пчалаводы правяралі пчол, «макалі ў мёд нажы». Для збору мёду ўсе апраналіся па-святочнаму. Хаця і частаваліся перад асноўнай падзеяй, але без гарэлкі і закускі з рэзкім пахам. Раней запальвалі дымар «жывым агнём», выкарыстоўвалі свянцоную ваду. У гэты дзень надавалася вялікая роля і вадзе, праводзілі «вадзяную атправу» — крыжовае шэсце да вадаёма.

Існавалі прыкметы: «Як на Юр'я дождж — будзе рыбы многа, а на Макава — будзе многа грыбоў», «Калі на Макаўе не бывае дажджу, то будзе шмат пажараў».

Свята ўсебакова адлюстравана ў народнай творчасці. У валачобных песнях зазначаецца: калі Ілля «жыта зажынаіць залатым сярпом», то «Святы Макавей з поля сабіраіць», «святы Макавей бульбы накапаў,.. рабят накарміў». Прыказкі сцвярджаюць: «Першы Спас — провады лета», «Ад Першага Спаса халодныя росы».

**Душыкі.** У Лельчыцкім раёне ў першы панядзелак Спасаўкі пяклі пячэнне («душыкі») па колькасці душ у сям'і, макалі яго ў мёд, затым у попел. Каб пазбегнуць сустрэч са змеямі, трэба было сказаць: «Лучшэй буду дужыкі ў попел мочаць, чым на сабе шохлю (змяю — А.Л.) дзержаць».

**Спасаўка (Спасаўка Ласаўка, Спажып пост)** — пятнаццацідзённы асенні пост (да 28 жніўня). Спявалі:

*Спасаўка, пералётная пташка,*
*Дзе лета летавала,*
*Дзе будзем зімаваць?*
*— Летавала ў пшаніцы,*
*У сцюдзёнай вадзіцы...*
(Бялыніцкі раён)

**Алесь ЛОЗКА.**

*НА КОНКУРС «ЗВЯЗДЫ» І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ*

***Сённяшняе апавяданне — яўна ўрывак з якогасьці большага твора. У «Журнале Фёдаравічы» няма ні завязкі, ні развязкі, затое, на маю думку, ёсць іншыя плюсы кароткага жанру: па-першае, унутраны дынамізм, па-другое, даволі рэдкая ў наш час тэма — цяперашняя школа, і, па-трэцяе, гэта своеасаблівы, непрыгладжаны — свой — стыль пісьма.***

***Валодзю Міхно 34 гады, ён жыве адзін у вясковай хаце на Лепельшчыне, трымае невялікую гаспадарку... Усё? Не, не ўсё. Ён аўтар дзвюх кніг прозы, рэгулярна друкуецца ў перыёдыцы, ён — сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі, пазаштатны карэспандэнт газеты «Чырвоная змена», пераможца конкурсу (2-е месца) п'ес для дзяцей, які ў мінулым годзе праводзіла Міністэрства культуры... Цікавы чалавек, праўда?***

**Андрэй ФЕДАРЭНКА.**



***<u>Уладзімір МІХНО</u>***

# ЖУРНАЛ ФЁДАРАВІЧ

Апавяданне

Я ступаю на ганак школы і — хвалююся. Далібог, як першакласнік. Мабыць, старэю. Зараз, пакуль падымуся па стромых панскіх лесвіцах на другі паверх, паяўлюся ў настаўніцкай захаканы, як бы за мною гналіся. Мне трыццаць пяць, а я абзавёўся пузінаю-гарбузінаю, якая перашкаджае жыць і адчуваць сябе падлеткам. Не дай бог, мой дзевяты спіша свайго Журнала Фёдаравіча ў дарослыя. Няўжо мы перастанем адзін аднаго адчуваць? Няўжо я стану ў іх вачах тоўстым, занудлівым, акадэмічным Журналам, годным толькі для таго, каб механічна выстаўляць адзнакі і аддаваць каманды? Няўжо я стану дарослым?

У настаўніцкай — пуста. Нашыя так рана не прыходзяць. Бадай усе яны ездзяць у школу з горада і жывуць тут па аўтобусным раскладзе. Здараецца часам так, што аўтобус забуксуе ці зламаецца. І тады нашая педагагічная гвардыя адчайна галасуе дзесьці там, на паўдарозе з райцэнтра, а першы бой прымаем мы з Аксанай Валер'еўнай, маладою настаўніцай матэматыкі, якую прыслалі сюды на здзек па размеркаванні два гады таму. Думалася, часова, ды нішто не бывае больш пастаянным, чым часовае размеркаванне ў сельскую школу. Мы з Аксанай Валер'еўнай — хаўруснікі па баявых дзеяннях. А ля гер ком а ля гер. І, што б там ні казалі злыя языкі, тонка намякаючы на тоўстыя абставіны, пакуль што мы проста сябры. Сябры па няшчасці. Мы прымаем першы бой: закідваем пяць старэйшых класаў самастойнымі заданнямі, аб'яўляем каменданцкую гадзіну і, нібы самыя сапраўдныя паліцыянты, шпацыруем з класа ў клас з інспекцыйнымі візітамі, пакуль нарэшце не падвальвае ў школу заснежанае, расчырванелае, запыханае педагагічнае папаўненне.

Мы з Аксанай Валер'еўнай мелі неасцярожнасць прыехаць у Сматрычы дый запісацца тут у мясцовыя. Аксане больш пашанцавала. Не паспела агледзецца, як ужо запрыкмеціў яе малады зухаваты Грышка Кармэн, мясцовы механізатар, а мой колішні, яшчэ ці не першага году, вучань. Я помню Грышку на сцэне нашага пустога Сматрыцкага клуба, дзе мы ў той час амаль кожны вечар, з боем вывудзіўшы ключы ў п'янчужкі-загклубшы, рэпеціравалі спектаклі. Першыя гады, калі я яшчэ думаў, што свет не такі безнадзейна жорсткі і хцівы, падахвоціўся быў весці школьны драмгурток. Дзеці павалілі валам. Дзеці мне паверылі, і я проста не меў права не адказаць ім на гэты давер. Зрэшты, я і сам тады думаў, што раблю нешта незвычайнае. Што нехта ўсё гэта заўважыць, ацэніць. Заўважылі, ацанілі! Убачылі, што малады спецыяліст шустрэй за ўсіх высоўвае нос і што трэба варушыцца, каб на яго фоне не выглядаць шэрым балотам, і заварушыліся, і вырашылі доўгі нос падкараціць. Дружна і метадычна пачалі маладога «есці». Загуло, забулькала балота... Каб на цяперашні розум — навошта мне быў той гурток? Даказаць усё роўна нікому нічога не дакажаш. Колькі тут існавала гэтых самых гурткоў. Афармлялі ў журналах, атрымоўвалі людзі грошы і не надта клапаціліся пра свой настаўніцкі аўтарытэт. Аўтарытэту табе захацелася? З ваўкамі жыць — па-воўчы выць. Але няўжо і сапраўды тыя першыя твае «тэатральныя» спробы былі заўчаснымі і дарэмнымі? Нават калі б аднаго Грышку Кармэна вырасціў твой гурток, гэта ўсё роўна было б тваёю перамогаю. А колькі ж іх, такіх Грышкаў, сёння вітаюцца і дзякуюць. Эх, мабыць, нездарма ты, Віктар Фёдаравіч, пратаптаў да школы сваю партызанскую сцежку.

Аксана і Грышка пажаніліся, атрымалі ў калгасе хату, балазе механізатары — не настаўнікі, хаты ў вёсцы да другога прышэсця не чакаюць. Ані лыжкі, ані міскі, затое ўжо сына гадуюць. Тэлевізар купілі. Не прап'ецца хлопец, застанецца свая галава на плячах — усё ў іх будзе. Дык што, з-за гэтага я павінен Аксане зайздросціць? Радавацца трэба. Але ж зайздросцяць, дый вунь як!

Самому мне, старому бабылю, пашанцавала куды меней. Хату давялося выкупіць закінутую. Вунь іх колькі, пакінутых старых хат у вёсцы. Сіратлівыя, нягеглыя, адчайна пазіраюць на вуліцу павыбіванымі вокнамі, як дзеткі-сіроткі, пакінутыя бацькамі на волю лёсу. Хату крыху падлатаў, ачалавечыў, абставіў сяк-так. У іншых няма і гэтага, панапускаюць дзяцей, каб трантамі трэслі, у хаце часам няма і зэдліка сесці за стол. У цябе ж, Віктар Фёдаравіч, і дываны, і паласы, і кухня, і мяккі куток, і чыста, і ў лядоўні не пуста. Лацвей аднаму: капейка да капейкі — прырастае доўгі рубель. А ўсё роўна ў хаце нячыстая сіла жыве. Не хапае гаспадыні, няма сям'і. Чужыя дзеці. Не бывае і дня, каб да цябе, настаўніка, не заходзілі вучні. Чужыя дзеці прывыклі, асвоіліся ў хаце, ты прывык да іх. Вырастаюць адны, ім на змену прыходзяць другія. Я нават ужо не ўяўляю жыцця свайго без іх, маіх сённяшніх падлеткаў. Яно і жаніцца можна было б, трэ б жаніцца, каб пазбавіцца дакучлівых, здзеклівых насмешак, незаслужанай абразы. У нас жа так: не ўпісваешся ты ў агульнапрыняты сцэнарый, не паспяваеш жыццё ўхапіць за хвост, каб зрабіцца падобным да іншых, хоць бы нават гэткім самым шэрым, затое стандартным — і становішся ты прадметам насмешак. Шэрасць у нас у пашане. Можна й жаніцца. Вось толькі падумаеш, куды без цябе — гэтым чужым дзцям, абяздоленым, яршыстым, неўраўнаважаным, безабаронным перад гэтым цынічным і жорсткім светам. Чужыя дзеці знайшлі ў тваёй хаце і цеплыню, і ўвагу, і разуменне, знайшлі тое, чаго ім не хапае дома. І што ж цяпер? На вуліцу? І — зноў гуляць па няпісаных правілах падлеткавае зграі?.. Не, Журнал, не спяшайся, твая жонка пачакае. А мо і праўда, ты ўжо даўно зрабіў свой выбар, ажаніўшыся са школаю?

Люблю прыйсці ў настаўніцкую, пакуль яшчэ нікога няма, ні сяброў, ні зайздроснікаў. Які ён будзе, сённяшні школьны дзень? Чысты ліст паперы, на якім ты, настаўнік, павінен напісаць сваё новае сачыненне...

— Добры дзень, Віктар Фёдаравіч! Вы, як заўсёды — у першых радах. Добра халасцяку, ні клопату табе, ні адказнасці. Устаў, паеў, школа побач. Пайшоў ты, і хата пайшла з табою.

— Добры дзень, Вікторыя Аляксееўна, хто ж вам не даваў хату з сабою ў сумку забраць? Вось бы і не хваляваліся.

Баба... Я зусім забыўся. Гэта ж мясцовыя не толькі мы з Аксанаю. Яшчэ ёсць Баба. Дзеці яе па-іншаму ніколі і не завуць. Баба, праўда не зусім мясцовая, а ходзіць у Сматрычы кіламетры за тры, з суседняе Чырвонае Раніцы, ходзіць мо ўжо гадоў сорак. Некалі ж і яна таксама была тут дырэктарам. Проста не ўяўляю, якім чынам гэтая звычайная вясковая баба трапіла ў школу. Сукенка на ёй, мабыць, тая ж самая, у якою раніцай выхваляецца перад свіннямі, за плячыма — гаспадарчая сумка. Што Баба ў ёй носіць? Хіба гарбузы? Сшыткаў не тое што ў пачатковых класах, дзе яна працуе, па ўсёй школе каб сабраў, сумкі гэтае не запоўніш. Кажуць, на вялікім перапынку Баба раптам вымае з гэтае сумкі агуркі, кілбасу, хлеб, бутэрброды і тэрмас з чаем, раскладвае на настаўніцкім стале і пачынае есці. Не ведаю, я ў пачатковай школе бадай не бываю, гэта зусім другі будынак. А ў настаўніцкай Баба, дзякуй Богу, паказваецца рэдка, каб здаць журнал.

— Га, браток, хаты з сабой не забярэш. Вы,маладыя, цяперака бесклапотныя. Улегцы жывяце, яшчэ й стогнеце, як вам цяжка. Вось паспрабавалі б у наш час. Галодныя, паўголыя пасля вайны хадзілі. А вучылі. Да Сілівонаўкі босая іду, туфель шкадую, пад сматрыцкай гарою абуваюся і — на ўрок.

Цяпер я разумею сваіх дзевяцікласнікаў. Аднойчы не вытрымалі і кажуць мне:

— Віктар Фёдаравіч, а чаму ад Сяўніцкай сіласам нясе? Яна што, ніколі не мыецца?

Эх, я ж ім і задаў... Надоўга заракліся пры Журнале «перамываць» настаўнікаў. Вам што, кажу, насалода здзеквацца са старых людзей? Вы што, кажу, садысты?

Кажу, а сам думаю, мо й дарэмна я так. Мо, наадварот, трэба было патлумачыць, што настаўнікі — таксама людзі, а людзі розныя бываюць...

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйнага — 68-27-41, крымінальнай хронікі і фінансавых экспертыз —32-38-02, эканомікі — 32-31-21, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44;аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве —31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98. ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 80.779. Індэкс 63850.
Зак. № 4776.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12